
Вера МІХНОЎСКАЯ ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Нельга заліць памяць ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3352) Год LXV | Беласток, 9 жніўня 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Маліліся да праслаўленых мучанікаў Падляшскіх

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

У Жаночым манаскім доме святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах 25 ліпеня гэтага года былі супольна праслаўлены мучанікі Падляшскія. Да іх ліку Саборам епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Польшчы ўключаны былі вазакі з нашых вёсак, забітыя каля Пухалаў-Старых, а таксама жыхары Залешан, Вулькі-Выганоўскай, Занёў і Шпакоў забітыя і спаленыя ў пачатку 1946 года — ахвяры атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якім камандаваў Рамуальд Райс «Буры». Яны далучаны былі адначасна да ліку мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх. На апошнюю суботу ліпеня ў жаночым манастыры, апрача святкавання ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці, ёсць вызначанае ўжо пастаяннае свята ў гонар мучанікаў Падляшскіх і была напісана ім ікона, якая была асвечана ў час святкавання. Мае суразмоўцы не скрывалі радасці, што ўжо могуць маліцца да сваіх святых мучанікаў і прасіць у іх хадайніцтва ў Бога ў жыццёвых выпрабаваннях. У ліпені мінулага года быў умураваны краеугольны камень і з восені інтэнсіўна ўзводзіцца манастырская мураваная царква святой велікамучаніцы Кацярыны і мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх, якая будзе, між іншым, напамінаць аб забітых і спаленых у пачатку 1946 года мужчынах, жанчынах і дзетках з нашых беларускіх вёсак.

Святкаванне пачалося 24 ліпеня ад усяночнай багаслужбы, у час якой малітвы ўзначальвалі архіепіскап Бельскі Грыгорый і епіскап Гайнаўскі Павел. Звяртаючыся да вернікаў, архіепіскап Грыгорый заявіў, што Залешаны — зараз месца пастаяннай малітвы, на якім выраслі нашы святыя мучанікі і месца, якое выбрала Божая Маці. Стала шматлюдна ў Залешанскім манастыры ў суботу, 25 ліпеня, калі ў час літургіі малітвы ўзначальвалі архіепіскап Люблінскі і Холмскі Авель, архіепіскап Бельскі Грыгорый і епіскап Гайнаўскі Павел у саслужэнні многіх свяшчэннікаў. На святкаванне прыбылі праваслаўныя вернікі з навакольных вёсак, прыехалі паломнікі з мясцовасцей Гайнаўскага і Бельскага паветаў, жыхары Беластока, Варшавы, Любліна.

Кананізацыйныя ўрачыстасці пачалися з зачытання акта Сабора епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы аб далучэнні да ліку святых мучанікаў Холмскіх і Падляшскіх святых мучанікаў Падляшскіх — вазакоў забітых каля Пухалаў- Старых і жыхароў вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Зані і Шпакі. Падчас кананізацыйнай урачыстасці былі зачытаны імёны і прозвішчы 79 святых мучанікаў, у ліку якіх апрача мужчын былі жанчыны, моладзь і дзеткі. Пасля была асвечана ікона Сабор Падляшскіх мучанікаў, напісана ў Залешанскім манастыры. На ёй відаць святых мучанікаў, прадстаўнікоў паасобных вёсак. Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава не змог прыбыць на святкаванне з-за хваробы, але епіскап Гайнаўскі Павел зачытаў пасланне мітрапаліта да вернікаў. У ім мітрапаліт Сава заявіў, што святыя мучанікі аддалі жыццё за вернасць Богу, праваслаўю і зямлі сваіх продкаў, якая была месцам іх жыцця, працы і досведаў. Мітрапаліт звярнуў увагу, што трагедыя мучанікаў пачалася менавіта ў Залешанах, а нашы святыя мучанікі трывалі пры сваім веравызнанні, завяраючы лёс свайму Створцу. Ведалі, што нельга станавіцца на калені перад абманам і злом, а доляй іх была ахвяра і Алтар. Мітрапаліт Сава выявіў спадзяванне, што малітва сясцёр Залешанскага манастыра засыпле непаразуменні з мінулага. Архіепіскап Люблінскі і Холмскі Авель у час свайго выступлення пакутніцкую смерць канaнізаваных святых назваў Галгофай Царквы, называючы таксама святой зямлю ў Залешанах, якая прасякнутая крывёй святых мучанікаў. Уладыка Авель заахвочваў звяртацца ў малітвах да святых мучанікаў у розных патрэбах як да пасрэднікаў у малітвах да Бога.

Спецыяльна на залешанскае святкаванне на вялікай сцэне быў устаноўлены палявы алтар, на якім служылася літургія. Дзень быў сонечны і цёплы, як бы па заказе на гэтае асаблівае святкаванне. Канешне, старэйшыя вернікі і частка паломнікаў маліліся ў цяньку, пад палаткай і каля сцен манастырскіх будынкаў, былога гаспадарскага дома ці клуні. Менавіта жаночы манастыр заснаваны на панадворку, на якім раней жыла і гаспадарыла мясцовая сям'я. Калі пасля літургіі вернікі пайшлі хросным ходам на месца, у якім у 1946 годзе была падпалена хата з жыхарамі Залешан, можна было ўбачыць як шматлюдным было святкаванне ў гонар Залешанскай іконы Божай Маці і новапраслаўленых мучанікаў Падляшскіх. Епіскапы, святары і вернікі першы раз не маліліся каля крыжоў, пастаўленых побач згаданага месца, за ўпакаенне душ забітых і спаленых у Залешанах у 1946 годзе, а велічалі святых мучанікаў Падляшскіх, сярод якіх ёсць жыхары Залешан.



■ Епіскапы, святары і вернікі першы раз побач месца, у якім была падпалена ў 1946 годзе хата з жыхарамі Залешан, велічалі святых мучанікаў Падляшскіх, сярод якіх ёсць жыхары Залешан




■ Ігумення Кацярына (Нічыпарук) на фоне часовай драўлянай царквы

— Цяпер будзем маліцца да нашых мучанікаў, якія пацярпелі за нашу праваслаўную веру, каб дапамагалі нам у розных патрэбах, — заявіць пасля завяршэння святкавання прыбыўшая ў Залешаны паломніца.

— Іх замучылі, а нам, іх сямейнікам, цяжка было пражыць. Нашы продкі загінулі за тое, што былі праваслаўнымі беларусамі. Цяпер мы радуемся і дзякуем Богу, што дачакаліся праслаўлення нашых продкаў і далучэння іх да ліку мучанікаў, — сказала жанчына, якой бацька загінуў з рук жаўнераў атрада «Бурага».

— Сёння тут у нас вялікая радасць, паколькі праслаўляем святых мучанікаў. Залешанская ікона Божай Маці таксама была напісана з улікам трагедыі, якая тут здарылася. Цяпер святым мучанікам напісана асобная ікона, якая сёння асвячалася, — сказала пажылая жанчына.

— Мы сталі сюды прыязджаць, калі ікона Божай Маці нам аб'явілася, — заявіла паломніца, якая часта прыязджае маліцца ў жаночы манастыр.

Залешанская ікона Божай Маці пастаянна знаходзіцца ў часовай царкве манаскага дома. На час святкавання была яна вынесена на манастырскі па-

чытайце ☞ 5





# Чужыя

Дзень галасавання ў Беларусі імкліва набліжаецца, але падзеі яго апярэджваюць. І ў гэтай з аднаго боку абнадзейваючай сітуацыі насцярожвае тое, што новыя выклікі не ўспрымаюцца грамадствам з такой хуткасцю, з якой яны навальваюцца. А вельмі трэба ацаніць і пралічыць усе рызыкі і небяспекі, каб паспець супрацьстаяць ім. Найбольш яскрава гэта заўважна па недастаткова насцярожанай рэакцыі грамадства на з'яўленне ў Беларусі баевікоў так званай „Прыватнай вайсковай кампаніі Вагнера".

Грамадства, а асабліва новыя палітычныя эліты ад апазіцыі, ды напраўдзе кажучы і многія старыя, яшчэ не ўсвядомілі ўсёй сур'ёзнасці сітуацыі. Гэта і зразумела. Людзі настроіліся на нейкі сцэнарый, як і за каго пойдуць галасаваць, і нават як будуць адстойваць свой выбар. І псіхалагічна вельмі не хочацца ламаць той сцэнарый. Цяжка ў імклівай выбарчай гонцы ўносіць карэкціроўкі. А вось тыя, хто пасылае вайскоўцаў на тэрыторыю другой краіны, у свае планы ўносяць карэкціроўкі штохвілінна.

Што яны тут забыліся, тыя вайскоўцы? Хто іх паклікаў сюды? Збіраліся яны тут піць гарэлку ці ехаць у трэція краіны? Такіх пытанняў можна задаваць безліч. І толькі дурань можа спадзявацца на праўдзівы адказ. Ясна тут можа быць толькі адно: яны будуць дзейнічаць у сваіх уласных інтарэсах, а не ў інтарэсах ні сённяшняй апазіцыі, ні сённяшняй улады. Яны для таго і існуюць, іх для таго і ствараюць ад самага пачатку, каб яны выкарысталі і надурылі ўсіх, і ўрэшце рэалізавалі сцэнарый сваіх гаспадароў.

Я пішу гэтыя радкі ў сваё вайсковае свята — дзень дэсантніка. Служыў я не ў звычайным дэсанце, а ў спецыяльным, ды яшчэ за межамі СССР. Па дамоўленасці СССР з Захадам такіх войскаў ва Усходняй Еўропе не павінна было быць. Таму нас хавалі, маскіравалі, увесь час мянялі месца дыслакацыі. А гэта была ўсяго адна рота з сямідзесяці чалавек! Што яна ў гэтай шматкольказнай групоўцы савецкіх войскаў?! Кропля ў моры! Але менавіта гэтай кроплі баяліся штабы супраціўніка. Мелі яны розум, бо нават маленькая група з салдат спецыяльнага прызначэння можа нарабіць столькі шкоды, з наступствамі якой не справіцца гадамі. Бо гэтыя ваякі на тое навучаныя.

А тут дзвесце чалавек, як нам паведамілі!!! Ды гэтая сіла можа забяспечыць камфортны прарыў чужых войскаў на тэрыторыю любой краіны! Успомніце, як невялікая такая група ўзяла палац Аміна ў Афганістане і запусціла там такую ланцуговую рэакцыю, якую ўжо многія дзясяткі гадоў усім светам не могуць спыніць.

Зразумела, што адказнасць за знаходжанне гэтых людзей на тэрыторыі Беларусі ляжыць выключна на дзеючай уладзе. Аніводзін салдат чужой краіны не можа знаходзіцца на тэрыторыі нашай — ні для пераезду ў іншыя кропкі, ні для выпівання гарэлкі пасля чарговай баявой аперацыі, ні для чаго іншага. Кожны такі ваяка нясе небяспеку для краіны. Гэта злачынства перад краінай.

Але калі з уладай усё даўно зразумела, то халатнасць некаторых апазіцыйных лідараў у гэтым пытанні моцна здзіўляе.

Усё правільна, улада перад кожнымі выбарамі шукала нейкіх баевікоў. І калі сто разоў крычаць „воўк", а ваўка няма, то на сто першы раз ніхто не верыць. Гэта ясна. Але ж гэтым разам „воўк" тут ёсць!!! І хто яго сюды прывёз ужо справа сотая. Трэба падымаць хвалю пратэсту, каб яго хутчэй адсюль вывезці. Бо гэта чужыя!

Такія групоўкі могуць палохаць уладу, каб яна пайшла на іх умовы, а пасля з лёгкасцю могуць дапамагаць гэтай уладзе супраць апазіцыі. Могуць рэалізоўваць трэці ці дзясяты сцэнарый, якога ніхто не ведае. Але сваёй вялікай ці малой перамогі ні гэтай уладзе, ні апазіцыі не аддадуць ніколі. У іх свая ўлада ёсць, бо гэта — чужыя!

Сцэнарый апазіцыі ўжо даўно вядомы ўсім, лідары яго самі публічна агаласілі. Улада рыхтуе свае сцэнарыі і іх таксама пралічыць не так цяжка. Яна ўжо іх рэалізоўвала неадноййчы. А вось які сцэнарый запусцяць чужыя вайскоўцы, здагадацца немажліва, бо яны самі яго не ведаюць.

Ну а Беларусь зараз на мітынгах і ў прамежку гудзіць як аб'яднаны рой з усіх пчол свету. Па сутнасці, прысутныя там беларусы ўжо выказаліся пра свой выбар. Ім трэба свая, свабодная, незалежная, справядлівая, беларуская краіна. На меншае яны нязгодны. Таму чужыя войскі на сваёй зямлі ім зусім непатрэбныя.

Віктар САЗОНАЎ

# Паляванне на ваўка



Мы ўсё ведаем пра ваўкоў. Аднак нічога не ведаем пра нашы атавістычныя страхі, якія аб'ектывуюцца ў воўчай прыродзе. Мы вельмі недасведчаныя ў гэтым плане. Хто не ведае казкі пра Чырвоную Шапачку? Яе сэнс мае аптымістычны канец. Злога і подлага ваўка забівае добры ляснік, а потым выцягвае з яго жывата непераваранную гераіню і яе бабулю, якую пражэрлівы монстр зжэр як закусь перад асноўнай стравай. Воўк, архетыпнае зло, — гэта прырода ў сваёй дзікай веліччы. Ляснік — добры чалавек, увасабляючы чалавечую цывілізацыю і законы, якія кіруюць ёй. Здаецца, адно ад другога такое ж далёкае, як зямля ад неба. Але нездарма людзі, як кажуць, ваўкі. Мы ваўком падшытыя, хочам мы гэтага, ці не хочам. Прырода такая, якая ёсць. Чалавечая цывілізацыя ўпарта супрацьпастаўляецца прыродзе такой, якой яна ёсць. Заступаючыся за яе, мы фактычна становімся ворагамі нашай зразумелай цывілізацыі. Гэтую тонкасць трэба дасканала разумець, інакш мы не выжывем. Нядаўна я прагляdaў навучальны дакументальны фільм на канале YouTube пра драматычныя наступствы неразумнага ўмяшання чалавека ў законы прыроды. Справа здарылася ў саракавых гадах у ЗША. Менавіта тады было прынята рашэнне знішчыць усю папуляцыю ваўка ў Йелаўстонскім нацыянальным парку, галоўнай ежай якога быў лось. Да здзіўлення леснікоў, праз некалькі гадоў аказалася, што папуляцыя лася хутка павялічылася, але зменшыўся рост мясцовага дрэвастою. Новыя дрэвы паменшалі, а лясныя рэсурсы выйшлі за рысы бяспечных межаў натуральнага абнаўлення. Пасля шматгадовых даследаванняў аказалася, што дрэвы малеюць не з-за нейкіх хвароб, а з-за ... тугі па ваўках! Ваўкі кантралявалі пагалоўе ласёў і, палюючы на іх, прымушалі іх часта перамяшчацца з месца на месца. З-за недахопу ваўкоў ласі сталі лянівымі, працяглы час пасвіліся на маладых дрэўцах. Такім чынам лось спрыяў дэградацыі дрэвастою. Толькі паўторнае рассяленне ваўкоў у парку аднавіла гармонію яго экасістэмы. Варта пра гэта памятаць... палюючы на ваўка, ці прыхільніку цяперашняй улады, ці яе непахіснаму праціўніку.

У часы самай суровай «камуны», яшчэ пры марыянеткавым прэзідэнце Беруце, калі ўлады спрабавалі калектывізаваць польскіх сялян, мой дзед Пётр, вясковы дакасцей, саркастычна пытаўся ў розных там бальшавіцкіх агітатараў: што за селянін, у якога няма каня?! І нягледзячы на пакутлівыя кантынгентныя зборы, дзед не даў загнаць сябе ў калгас. Мужык без каня — як баба без мужыка. Абое павінны ісці ў адной вупражы, інакш жыць немагчыма. Памятаючы пра пытанні дзеда Пятра, хаця да канца не ўсведамляючы яго экзістэнцыяльнай місіі, я з дзяцінства шукаў каня. Толькі што я нарадзіўся ў вялікім горадзе і вырас паміж касцёлам св. Роха і царквой св. Мікалая. Касцяком маёй маладосці была вуліца Ліпавая ў Беластоку, на якую, здаецца, з канца 1960-х забаранялася ўехаць на кані. Тым не менш Ліпавая тады была месцам шпацыраў, а для моладзі звычайным месцам захаплялых спатканняў. Калі не конь, дык хаця б баба! Эх, колькі нявінных захадаў я зрабіў у той час... Аднак я дарос, а нават перарос, каня не маю, а баба ў мяне ёсць. Коніка дачакаўся — свайго хобі. Прынамсі, выконваю місію майго дзеда Пятра. Жарсна шукаю аналогій, часта далёкіх адна ад аднае па сэнсе ці змесце, супольных для іх праўдаў альбо абагульненняў. Напрыклад, чалавек мае нешта агульнае з ваўком. Я прызнаюся, гэта даволі шалёная ідэя, і высновы, якія выцягваю не толькі з гэтай аналогіі, часам супярэчлівыя і нават дурныя. Тым не менш мне здаецца, што ў гэтым нешта ёсць. Возьмем, напрыклад, падабенства паміж дзёрзкім забойствам ваўкоў у Йелаўстонскім парку і бяздумным калупаннем у законе цяперашнімі ўладамі. Закон, заснаваны на сваёй Вярхоўнай літары — Канстытуцыі, — гэта асаблівы від экасістэмы, заснаваны на тонкіх залежнасцях, якія выцякаюць з паслядоўнай логікі. Дастаткова, здавалася б, толькі касметычнае і зусім непрадуманае ўмяшанне ў яго структуру прывядзе да прававой, грамадзянскай і грамадскай катастрофы. У цяперашні час улада, на жаль, зачаста і неразумна, масава сячэ прававую экасістэму. Усё гэта ад імя нібыта вяршэнства закона і грамадскага парадку. Справа не ў стварэнні Чырвонай кнігі крыўдаў, а ў тым, каб перасцерагчы ўсіх ад невуцтва, уласцівага чалавеку. Над ім можна запанаваць — калі хочацца. Але ніколі над ваўком.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Любім, можам, пераможам

Зараз у нас у поўным разгары каляндарнае лета. У гэтым годзе спадарожнічаюць яму не менш гарачыя прэзідэнцкія кампаніі ў Польшчы і Беларусі. І калі польскія выбары за намі і памаленьку эмоцыі змагання зыходзяць з абодвух супрацьстаўных лагераў, то ў Беларусі пік эмоцый узрастае да максімуму і прыпадзе на найбліжэйшую нядзелю, 9 жніўня. Тое, што адбывалася ў польскай дзяржаве ў рамках дэмакратычных працэдур выбарчай кампаніі, выявіла неверагодны мабілізацыйны патэнцыял грамадства і паказала ўнутраныя ў ім падзелы. Добра, што ўрэшце прэзідэнт Анджэй Дуда і яго канкурэнт пацiснулі сабе рукі ў знак прызнання дэмакратычнага выбару кіраўніка дзяржавы, але таксама ўказалі на патрэбу ўзаемнай пашаны паміж людзьмі розных палітычных поглядаў, бо вядома здаўна, што кожная ўнутраная вайна ў грамадстве ў далейшай перспектыве да нічога добрага не прывядзе. Застаецца верыць у лепшае, асабліва ў кантэксце выклікаў праблем сусветнага маштабу, якія не за гарамі і лясамі, але ўжо ў нас. Справа перш за ўсё ў вяртанні хвалі захворванняў каранавірусам, якая супадзе з восеньскім грыпозным сезонам. Эпідэміёлагі краіны б'юць трывогу па прычыне неадказных паводзін грамадства. Не без віны тут і палітыкі ўсіх кірункаў, якія выбарчую кампанію праводзілі без аглядкі на дзейныя законы, але ніхто не аштрафаваў за дапушчаныя імі парушэнні. Да гэтага поўная няўпэўненасць у тым, як другую хвалю пандэміі вытрымае сусветная гаспадарка. Пытанняў і сумненняў шмат, а адназначных адказаў ад уладароў гэтага свету не атрымліваем. З кожным днём шторазу больш пытанняў і сумненняў спараджае выбарчы працэс у Беларусі. Беларускае грамадства кінула выклік перш за ўсё сістэме фальшывага падліку галасоў і вечнага кіравання краінай Аляксандрам Лукашэнкам. Шматтысячныя мітынгі з удзелам жаночага трыо з аб'яднаных выбарчых штабоў — Святланы Ціханоўскай, Марыі Калеснікавай і Веранікі Цапкалы натхнілі беларускае грамадства на веру ў магчымасць перамен дзякуючы выбарчаму бюлетэню. Натхнілі на надзею, якая адбіралася гадамі сістэмай, створанай цяперашнім кіраўніком рэспублікі на працягу дваццаці пяці гадоў — сістэмай страху, поўнай дэбеларусізацыі, палітычнай і фізічнай расправы над інакш думаючымі. Таму невыпадкова ў адказ на ўсю лукашэнкаўскую палітыку мітынгоўцы крычаць „Перамены" і „Любім, можам, пераможам". Ад усходу і да захаду Беларусі з абласных гарадоў, малых мястэчак і вёсак ідзе адназначны пасыл: „не" для такой улады і такой Беларусі. А ўлада пакуль дзейнічае па адпрацаванай сістэме — штрафныя батальёны Лукашэнкі папаўняюцца на канвееры судовых арыштаванняў і штрафаў, заложнікаў унутранай і замежнай палітыкі.

Увесь час ізалююць актывістаў на час прэзідэнцкіх выбараў — затрымліваюць іх для адбыцця раней прызначаных арыштаў. Пра гэта паведамляе праваабарончы сайт spring96.org. Затрыманні адбыліся ў Менску, Воршы, Наваполацку, Берасці, Слуцку і іншых гарадах. Паводле звестак праваабаронцаў, ад пачатку выбарчай кампаніі 204 чалавекі асуджаны ў агульнай складанасці на 2937 сутак арышту па адміністрацыйных артыкулах, выкарыстаных у мэтах палітычнага пераследу. 367 чалавек атрымалі штрафы агульным памерам амаль у 285 000 рублёў (гэта больш як 116 000 долараў ЗША). Праваабаронцам вядома як мінімум пра 1277 выпадкаў адвольных затрыманняў, якія адбыліся з 6 траўня па 31 ліпеня.

Такому становішчу рашучае „не" выказвае зараз беларускі народ. Калі дзякуючы інтэрнэт-стрымам я глядзеў большасць перадвыбарчых мітынгаў, дык яшчэ адно дайшло да мяне: гэтай энергіі і годнасці не забраць ужо з душ мітынгуючых беларусаў. Не забраць нікому тых мар аб свабодзе і мурах, якія рухнуць раней ці пазней. Гэтая атмасфера сталася чарговым, неверагодным зарадам для пакаленняў, якім прыйдзецца адстойваць незалежную Беларусь. Ніхто сёння не ў змозе прадказаць, што адбудзецца 9 ці 10 жніўня, адразу пасля галасавання. Пры ўсёй геапалітычнай складанасці на постсавецкай прасторы правакацыі тут не выключаны. Але адно чутнае — прытухлая лукашэнкаўская сістэма ўжо так смярдзіць, што ейным агідным пахам ніхто не хоча дыхаць.

Яўген ВАПА

# Не, гэта не быў «ужэндовы дырэктар»! Яна ўсім дапамагала...

Ганна КАНДРАЦЮК

Паведамленне пра смерць дырэктар **Веры Міхноўскай (1945-2020)** я прачытала на сайце школы 22 ліпеня г.г. Першапачаткова сумная інфармацыя не хацела ўлегчыся ў галаве, аднак жаль і шкадаванне ціснулі душу, наклікалі слёзы. У такія хвіліны чалавек адчувае не толькі смутак, але і ўдзячнасць. Яе кабінет быў заўсёды ветлівым прыстанішчам у час маіх рэдакцыйных пабывак у школе. У час адной размовы «пры гарбатцы» спадарыня Міхноўская сказала пра сваё сваяцтва з Янкам Крупам, стваральнікам легендарнай «Лявоніхі». З таго моманту пры кожнай сустрэчы я міжвольна думала пра музыку і, як аказалася, невыпадкова. Вера Міхноўская адразу пасля заканчэння Гайнаўскага беларускага ліцэя паступіла ў Настаўніцкую студыю на аддзяленне музыкі. Пасля, у першыя гады працы, навучала спевам і музыцы ў Нараўцы і Кляшчэлях. Магчыма, дзякуючы і гэтай прыкмеце яе запамяталі не толькі як прафесіянала, але і прыгожага, добрага чалавека.



**Васіль Ляшчынскі,** шматгадовы дырэктар бельскай «тройкі»: — Вера прыйшла да нас на працу 1 верасня 1984 года. У той час школа разбудоўвалася, пабольшала і гэта спрычынілася да таго, што ў нас значна падскочыла колькасць дзяцей і класаў. З 1986 года Вера стала маім другім намеснікам. Яна была дасканалым арганізатарам жыцця школы, ведала як нададзіць супрацоўніцтва з бацькамі, вучнямі. Ведала як паказаць бацькам, што хтосьці іх паважае, шануе, размаўляе з імі, а не глядзіць на іх з пачуццём перавагі. Такой трактоўкі як зараз, што той, хто прыходзіць, гэта кліент школы, у нас не было. Вера была ўдалая і вельмі цёплая да ўсіх: да бацькоў, да дзяцей, да настаўнікаў. Калі адчуваецца пашана, інакш працуеш. Не, каб як раба паганяць бізуном, а паказаць зразуменне, дапамагчы. Пасля 1989 года, калі да школы ўвайшла рэлігія, мы палічылі яе вартасцю, якая аб'ядная грамаду. Вера часта ездзіла на пілігрымкі з бацюшкам Неліпінскім. Яна была шчырая ў гэтым, праўдзівая. Дзеці пачалі адзначаць праваслаўныя святы, адчулі іх важнасць і значэнне. Вера культывавала нацыянальную працу, мы размаўлялі з бацькамі пасвойму, ладзілі ўсякія беларускія святы, спрыялі беларускасці. Яна заўсёды была аптымісткай. І нават калі я сам меў усяго па дзіркі ў носе, яна раіла супакоіцца. «Пачакай, — казала, — яшчэ дзень два і ўсё пройдзе». Не дазваляла падаць духам, ламацца. У яе быў такі добры спакой душы. Не, гэта не быў «ужэндовы дырэктар»! Яна ўсім дапамагала... і ведала як стварыць цёплую атмасферу вакол школы.



**Вера МІХНОЎСКАЯ** (з дому Мак) нарадзілася 2 кастрычніка 1945 года ў Рудутах. Пачатковую школу закончыла ў Орлі і паступіла ў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Далей вучылася ў Настаўніцкай студыі на аддзяленні музыкі. Пасля вучобы, разам з будучым мужам, Васілём Міхноўскім, была накіравана настаўнічаць у Нараўку. У 1969 годзе сужонства пераехала ў Кляшчэлі і там працавала ў Пачатковай школе. Адначасова Вера Міхноўская паступіла на факультэт педагогікі па спецыяльнасці пачатковае навучанне. Яе магістарская дысертацыя датычыла лёсаў выхаванцаў Дзіцячага дома ў Белавежы. Далей працавала ў ПШ № 1 у Бельску, а з 1984 года да выхаду на пенсію ў 2011 годзе — у бельскай «тройцы». Памерла 21 ліпеня 2020 года пасля хваробы падстраўнікавай залозы. Пахаваная на новых могілках, што па вуліцы Міцкевіча.

— Яна жыла так, каб нікога не пакрыўдзіць, — кажа **Яніна Зінкевіч**, настаўніца пачатковага навучання з саракагадовым стажам працы. — Вестка пра смерць пані дырэктар была для мяне нечаканай, я не ведала што яна ад лютага хварэла. Адразу прыгадалася школьная сустрэча з нагоды Дня настаўніка, калі пані дырэктар была разам з намі. Як і выпадковая сустрэча на горадзе ў 2019 годзе. Перад вачыма і сёння я бачу спадарыню дырэктар з прамяністай усмешкай. *Працуй у школе датуль, пакуль хопіць табе энергіі*, — сказала на развітанне. І мы дамовіліся на чарговую, больш грунтоўную сустрэчу. Але жыццё вырашыла інакш...

— Буду ўспамінаць паню Веру як чалавека вельмі зычлівага да ўсіх людзей — са школы і з-па-за школы, — спадарыня Яніна апошнія словы выказала ў слязах. Па сённяшні дзень ёй цяжка змірыцца з адыходам чалавека, які моцна паўплываў на яе жыццё: — Яна заўсёды была спакойнай, памяркоўнай, тактоўнай і пазітыўна-аптымістычнай асобай. Дзякуючы яе характару і падыходу, мая праца і іншых праходзіла ў незмучанай, прыемнай атмасферы. Яна ўмела разрадзіць кожны стрэс, кожны канфлікт. Пакінула пасля сябе добрую памяць.

Развітальнае словы прызнання і ўдзячнасці выказала таксама **Барбара Скепка**, зараз наменік дырэктара «тройкі»: — Са спадарыняй дырэктар Верай Міхноўскай я пазнаёмілася ў 1987 годзе, калі прыйшла працаваць настаўніцай пачатковага навучання. Спадарыня дырэктар назірала за навучаннем у класах I-III. Яна ўвяла мяне ў працэс навучання, а пасля мной апекавалася. Была надзвычай добрым чалавекам, асобай тактоўнай, зычлівай і элегантнай. Заўсёды адзначала нашы поспехі і дасягненні, хваліла за добрыя ідэі, заахвочвала да працы. Падказвала як справіцца з праблемамі і паразамі, як пазбегнуць памылак у будучыні. Яна з пашанай ставілася да вучняў і настаўнікаў, да бацькоў і ўсіх працаўнікоў школы. Мы глядзелі на яе і вучыліся. Калі я заступіла яе на пасадзе намесніка дырэктара школы, я часта карысталася яе досведам, прыходзіла да яе з рознымі праблемамі і прасіла парады. Спадарыня Вера Міхноўская вельмі любіла сваю працу, прысвячала ёй многа часу і з характэрнай сабе зычлівасцю, усім дапамагала.

Вечная памяць пані дырэктар!

* * *

Вобраз спадарыні дырэктар як чалавека выдатна папоўнілі словы яе дачкі:

— Ад наймалодшых гадоў маці вучыла нас любіць працу, — кажа **Барбара Зянкевіч**, — памятаю калі мы працавалі пры жніве ў бабулі. І ўжо стаміліся, хацелі ісці дахаты. А яна не адступала, заахвочвала нас, каб яшчэ папрацавалі... Маці мела вялікую пашану для бацькоў, дзядоў. Заўсёды хацела іх выручыць пры рабоце, дапамагчы... Так, гэта была спагада і пашана для іх цяжкай працы. Яе жыццё не было лёгкім. Аднойчы расказала, як яна, будучы вучаніцай пачатковай школы, хадзіла з лучынай у школу. Пры чым тут лучына? — падумаеце. З ёй звязаная такая гісторыя пасляваенных гадоў. У Орлю, чатыры кіламетры ў адзін бок, хадзіла пешшу. Ніхто не думаў, каб давозіць дзяцей. Але гэта не было страшна, тады дзеці баяліся ваўкоў. Дык яна брала ў сумку тую лучыну, каб яе запаліць і адагнаць ад сябе ваўкоў. У хаце яна была да канца настаўніцай, — прадаўжае дачка. — Нават калі гуляла з унукамі, то пільнавала, каб у кожнай забаве была нейкая задача. Каб навука была разумнай, служыла развіццю. Яна сама была энтузіясткай, заўсёды рыхтавалася да кожнага выступлення, каб усё было дапятае на ціп-топ. Была вельмі адданая школе, заўсёды была гатова дапамагаць сяброўкам-настаўніцам. Любіла таксама сямейныя святы і сустракаць гасцей, паспяваць з імі. Вучыла сваім прыкладам, любіла ўсміхацца, — кажа дачка.

Сардэчныя словы выказала таксама **Валянціна Бабулевіч,** настаўніца беларускай мовы:

— Святой памяці спадарыня Вера Міхноўская гэта была проста цудоўная, вельмі сардэчная ў адносінах да людзей асоба. Была маім дырэктарам 24 гады і за гэты перыяд я не пачула ад яе ніводнага прыкрага, несправядлівага слова. Разам з дырэктарам Васілём Ляшчынскім яны дабіліся ў нашай школе не толькі высокага ўзроўню навучання, але і стварылі цудоўную сямейную атмасферу. У маёй памяці назаўсёды застанецца яе сардэчная ўсмешка. Гэтая ўсмешка дапамагала рашаць, здавалася б, самыя цяжкія праблемы. Для мяне запаміталіся добрыя жыццёвыя парады пані дырэктар. Яна заўсёды гаварыла, што чалавек не можа жыць толькі працай, вучыла нас, маладых настаўнікаў, не забываць пра свае сем'і, сваіх дзяцей. Пасля адыходу на пенсію, дзевяць гадоў таму, яна не парвала сувязей са школай, прыходзіла на кожны Дзень настаўніка. Для мяне вельмі важным было тое, што пані дырэктар кожны год званіла з пажаданнямі ў дзень маіх імянін, а пажаданні былі вельмі мудрыя і сардэчныя, складзеныя на беларускай мове. Апошнія пажаданні я атрымала нават у вершаванай форме. Як я цяпер

чытайце ☞ 5

# Школа ў Навакорніне застанецца

Калі вясной гэтага года Рада Гайнаўскай гміны прыняла пастанову аб спыненні з канцом жніўня дзейнасці Пачатковай школы ў Навакорніне, бацькі не здаліся і пачалі намаганні, каб у школьным будынку заснаваць непублічную школу, якая пераняла б абавязкі публічнай школы. Спачатку былі розныя складанасці, але інфармацыя аб магчымым продажы школьнага ўчастка з будынкам для замежнай суполкі, якая намервaецца наладзіць у ім вытворчасць да канца неназваных вырабаў для сельскай гаспадаркі, падштурхнула бацькоў да рашучых дзеянняў. Калі ў народ пайшла інфармацыя, што ад гэтай вытворчасці можа разыходзіцца смурод на Навакорніна, а можа нават і на суседнія вёскі, а жыхары Навакорніна не маглі звязацца з прадстаўнікамі замежнай суполкі пад яе беластоцкім адрасам, спалохаліся таксама і старэйшыя жыхары Корніна. Пры падтрымцы мясцовага грамадства ўдалося сабраць яшчэ большую колькасць дзетак у дашкольным і школьным узросце, якіх бацькі выявілі ахвоту вучыць іх у Навакорніне, каб школьны будынак можна было надалей выкарыстоўваць для адукацыйных мэт. Грамадска-асветнае аб'яднанне дапамогі пакрыўджаным і асобам з абмежаваннямі «Адукатар» з Ломжы па просьбе бацькоў выступіла да Гміннай управы ў Гайнаўцы з прапановай адкрыць непублічную пачатковую школу ў Навакорніне. Аб'яднанне «Адукатар» супрацоўнічае ўжо з уладамі Гайнаўскай гміны, паколькі вядзе Непублічную пачатковую школу ў Арэшкаве. Жыхары Навакорніна паехалі да войта Гайнаўскай гміны Люцыны Смактуновіч з патрабаваннем не прадаваць школьнага будынка, толькі перадаць яго «Адукатару» на непублічную школу. Войт Люцына Смактуновіч выступіла да старшыні Рады Гайнаўскай гміны Ярaслава Кота з просьбай склікаць нечарговае пасяджэнне Рады і падрыхтавала праект пастановы, у якой выказвалася згода на арганізацыю Непублічнай пачатковай школы ў Навакорніне Аб'яднаннем «Адукатар». Рада засядала 29 ліпеня, а галасаванне ў справе школы папярэдзіла бурная дыскусія.

— Інфармацыя аб магчымым продажу школьнага будынка і наладжанні ў ім вытворчасці кармоў або кампанентаў для сельскагаспадарчай прадукцыі, якая спрычыніцца да засмуроджвання наваколля, выклікала вялікі супраціў жыхароў сяла і вельмі мабілізавала нас, бацькоў. Мы рашылі адкрыць у школьным будынку непублічную школу і ўдалося нам знайсці яшчэ больш бацькоў ахвотных пасылаць сваіх дзетак у нашу школу. Дагэтуль многія бацькі са школьнай акругі ў Навакорніне не пасылалі дзетак у нашу школу, паколькі ад многіх гадоў гаварылася аб яе ліквідацыі. Бацькі проста не запісвалі дзетак у школу, якая хутка можа быць ліквідавана. Стварэнне стабільнай непублічнай школы павінна даць падставы для доўгай дзейнасці нашай адукацыйнай установы. Мы перакананы, што яшчэ больш бацькоў рашыцца пасылаць у Навакорніна сваіх сыноў і дачок, — скажуць бацькі пасля нечарговай сесіі Рады гміны, якая адбылася 29 ліпеня ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры з захаваннем санітарнага рэжыму ў сувязі з пандэміяй каранавіруса.

Да пачатку сесіі яе ўдзельнікам памералі тэмпературу, усе прысутныя дэзінфікавалі рукі і закрылі твары маскамі. У вялікай зале хапіла месца ўсім ахвотным. Спачатку радныя прынялі змены ў гмінным бюджэце, затым заняліся справай пачатковай школы ў Навакорніне.

Войт гміны Люцына Смактуновіч паінфармавала, што ў адпаведнасці з пастановай Рады Гміны Гайнаўкі Пачатковая школа ў Навакорніне спыніць сваю дзейнасць з канцом жніўня.

— Аб'яднанне «Адукатар» звярнулася да нас 7 ліпеня 2020 года з прапановай арганізаваць Непублічную пачатковую школу ў Навакорніне, паведамляючы, што падобную школу вядзе ўжо ў Арэшкаве. Аб'яднанне звярнулася з просьбай перадаць яму ў карыстанне школьны будынак і асветную субвенцыю, пачынаючы з верасня 2020 года. Аднак, маючы на ўвазе інтарэс гміннага бюджэту, няма магчымасці перадаць асветную субвенцыю ад верасня, калі б паўстала такая непублічная школа. Я аб гэтым паінфармавала аб'яднанне «Адукатар», паколькі такія сродкі мусілі б мы выдаць з уласнага бюджэту. Мы прадбачваем, што ў бягучым годзе выдзелім на дзейнасць Пачатковай школы ў Навакорніне каля 340 тысяч злотых, апрача атрыманай асветнай субвенцыі на 2020 год, — сказала войт Люцына Смактуновіч.

Войт пераконвала, што самаўрад згодна з новым асветным законам можа, але не мае абавязку перадаваць частку асветнай субвенцыі ў час каляндарнага года адзінкам, якія ў гэтым часе ствараюць новую школу. Старшыня аб'яднання «Адукатар» у Ломжы Барбара Кучалэк, якая выказвалася перад раднымі ў час тэлефоннай сувязі, чарговы раз папрасіла пералічыць Непублічнай пачатковай школе ў Навакорніне частку асветнай субвенцыі. Заявіла, што калі самаўрад не згаджаецца выдаць асветную субвенцыю, павінен прыняць пастанову ў гэтай справе і ад такой пастановы можна будзе адклікацца, паколькі субвенцыя прыйшла за вучнямі і павінна быць перададзена за імі далей. Радны Віктар Грыгарук прапанаваў пашукаць юрыдычнае тлумачэнне Вярхоўнага суда РП у справе передачы асветных субвенцый.

Сакратар гміны Аляксандр Кулік паінфармаваў пра ход намаганняў прадстаўніка суполкі «Фітэра», зарэгістраванай у Беластоку па вуліцы Гетманскай, які выступіў пасрэднікам у справе куплі ўчастка і школьнага будынка ў Навакорніне. Старшыня Фонду «Усход» Міраслаў Матрэнчук крыху расказаў пра замежную суполку, якая ў Польшчы была зарэгістравана пад назвай «Фітэра». Праз пасрэдніцтва Фонду «Усход» выступіла яна да Гміннай управы ў Гайнаўцы з прапановай куплі школьнага ўчастка з будынкам у Навакорніне. Старшыня няўрадавага фонду Міраслаў Матрэнчук намагаўся пераканаць радных аб добрых намерах суполкі, якая дзейнічае ў Расіі, Казахстане, Нямеччыне, Эстоніі і хоча арганізаваць сваю дзейнасць у Турцыі, Кітаі, Беларусі і Польшчы. Старшыня Фонду «Усход» заявіў, што згаданая суполка ў наваколлі Белавежскай пушчы займалася б экалагічнай прадукцыяй для сельскай гаспадаркі з выкарыстаннем біятэхналогій. Аднак яго тлумачэнні не пераканалі жыхароў Навакорніна.

— Нашы сумненні і незадавальненне выклікала інфармацыя аб суполцы «Фітэра», якая хоча купіць у нас школьны ўчастак і будынак. Мела б там адбывацца, між іншым, прадукцыя кармоў, якая выпускала б смурод. Суполка была зарэгістравана ў Польшчы ў 2019 годзе з капіталам у 5 тысяч злотых. Што ж гэта за капітал? — скажуць пасля сесіі солтыс Навакорніна Ярaслаў Грыгарук і Аніта Сіроцкая.

Інфармацыя аб намерах куплі школьнага будынка для гаспадарчай дзейнасці выклікала многа адмоўных эмоцый у грамадстве вёскі. Радныя, якія нядаўна прагаласавалі за ліквідацыю пачатковай школы ў Навакорніне, былі ўжо гатовы даць згоду на арганізацыю непублічнай пачатковай школы ў Навакорніне або стрымацца ад голасу і такім спосабам падтрымаць ідэю захавання школьнага будынка для адукацыйных мэт. За передачу школьнага будынка аб'яднанню «Адукатар» і заснаванню ў ім Непублічнай пачатковай школы ў Навакорніне прагаласавала 6 радных, 3 было супраць, а 5 стрымалася ад голасу.



Адрамантаваны будынак школы ў Навакорніне



За передачу школьнага будынка Непублічнай пачатковай школе ў Навакорніне прагаласавала 6 радных (3 было супраць, а 5 стрымалася ад голасу)



На нечарговую сесію прыбылі бацькі, каб адстойваць інтарэсы школы

— Раней па эканамічных прычынах я галасаваў за спыненне дзейнасці школы ў Навакорніне. Цяпер я галасаваў за передачу школьнага будынка аб'яднанню «Адукатар». Я так галасаваў і ў мінулым, калі арганізавалася непублічная школа ў Арэшкаве. Самае важнае ў дзейнасці самаўрадаў — грамадства і сёння мы прынялі пастанову згодна з яго патрабаваннем, — сказаў старшыня Рады Ярaслаў Кот.

— Мы змагаліся з часам і нам вельмі залежала, каб як найхутчэй вырашыць пытанне передачы школьнага будынка аб'яднанню «Адукатар» у Ломжы, каб з пачаткам школьнага года дзеткі маглі вучыцца ў тым самым школьным будынку, у якім вучыліся раней. Цяпер мы, бацькі, адчуваем вялікую палёгку, паколькі радныя выслухалі нашы аргументы і прапановы і прагаласавалі за арганізацыю непублічнай школы ў Навакорніне, — заявіла пасля сесіі Дарота Раманюк.

— Будынак школы ў Навакорніне — шыкарны, месца вельмі добрае і настаўнікі выдатныя. Мой сын раней вучыўся ў пачатковай школе ў Гайнаўцы. Калі стаў вучыцца ў Навакорніне, я заўважыла станоўчую розніцу ў параўнанні з навучаннем у вялікай гарадской школе і намнога паправіліся яго вынікі навучання. У невялікай школе ў настаўнікаў больш часу на індывідуальную працу з кожным вучнем, больш часу растлумачыць менш зразумелае кожнаму вучню асобна, — сказала Аніта Сіроцкая.

— Цяпер мы будзем падаваць адпаведныя дакументы ў Куратарыю ў Беластоку, каб ад пачатку верасня атрымаць дазвол на дзейнасць Непублічнай пачатковай школы ў Навакорніне, — заявіла старшыня аб'яднання «Адукатар» у Ломжы Барбара Кучалэк.

Бацькі заявілі, што ўсё ж разлічваюць на передачу з гміннага бюджэту ў непублічную пачатковую школу ў Навакорніне часткі асветнай субвенцыі за перыяд ад верасня да канца года, каб школа магла бесперабойна дзейнічаць.

— Ужо бацькі дэкларуюць, што аддадуць у дашкольнае аддзяленне 22 дзетак. Сёння адна з мам паведаміла, што дадаткова бацькі пяцярых дзетак з Гайнаўкі выявілі ахвоту пасылаць іх у навакорнінскую школу. Некалькі іншых бацькоў гатовых запісаць сваіх дзяцей у нашу школу, калі яе дзейнасць будзе стабільнай. Спадзяемся, што дзейнасць непублічнай школы ў Навакорніне будзе стабільнай і бацькі будуць аддаваць сваіх дзяцей на навуку ў нашу школу, — заявіла Дарота Раманюк.

— З пачаткам школьнага года трэба будзе вырашаць многа звычайных арганізацыйных пытанняў і будзем старацца штодзень дапамагаць у працы школы, як толькі распачне дзейнасць, — сказаў солтыс Навакорніна Ярaслаў Грыгарук, якога дзіця пойдзе ў дашкольнае аддзяленне.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

1 ☞ працяг

## Залешаны



надворак і пастаўлена перад сцэнай, на якой знаходзіўся алтар. Пра гісторыю паўстання Залешанскай іконы Божай Маці, якой пакланяліся вернікі ў час багаслужбаў і пасля ўрачыстасцей, расказала мне ігумення Кацярына. Асоба, якая хварэла, прыехала памаліцца ў Залешаны. Прасіла выздараўлення і ў час літургіі ўбачыла Божую Маці на іконе ў акружэнні сямі анёлаў. Пасля ў сне некалькі разоў пачула жаночы голас, які гаварыў, каб напісаць ікону Божай Маці. Гэтая асоба выздаравела і пачутая ёю просьба была здзейснена. На Залешанскай іконе Божая Маці стаіць у акружэнні сямі анёлаў. Знізу іконы відаць трапарыён «Радуйся, Благодатная Богородице Дево, весь Залешаны от уничтожения вражья сохранила еси, и нас ныне просящых Твоея помощи и заступления от дьявольских козней защити, молящи Сына Твоего и Бога нашего, помиловати души наша». Злева ад трапарыёна на іконе напісаны дом, які заняў пажар, а справа на іконе відаць трое малых дзетак у агні. Ігумення Кацярына ўдакладніла, што напісаны на іконе дом і дзеткі звяртаюцца да трагічных здарэнняў у Залешанах ад 29 студзеня 1946 года, калі атрадам Рамуальда Райса «Бурага» жыхары вёскі былі сагнаны ў назначаную хату і была яна падпалена. Хаця з дапамогай добрага жаўнера атрада «Бурага», як яго сталі называць мясцовыя жыхары, залешанцам удалося ўцячы з палаючага дома і выратавацца ад смерці, то ў іх вёсцы былі тады забітыя і згарэлі 16 чалавек, у тым ліку жанчыны, дзеткі, і амаль уся вёска была спалена.

— Людзі з хаты, якая ў Залешанах была падпалена, беглі ў напрамку вёскі Тапаркі і не ведалі, які будзе іх далейшы лёс. Залешаны гарэлі, а гэтыя людзі баяліся вяртацца дамоў, — заявіла прыбыўшая на ўрачыстасць жыхарка Тапаркоў.

Ігумення Кацярына перакананая, што дзякуючы хадайніцтву ў Бога пакутнікаў забітых у Залешанах паўстаў і дзейнічае манаскі дом, а зараз выявіла асаблівую радасць па прычыне праслаўлення мучанікаў Падляшскіх. Сярод забітых і спаленых жыхароў Залешан былі сямейнікі ігуменні Кацярыны, якой бацька, Сяргей Нічыпарук, родам з Залешан. Цяпер ігумення Кацярына (Нічыпарук) вярнулася на пастаянная жыхарства ў вёску сваіх продкаў. З 2007 года паспяхова кіруе дзейнасцю Жаночага манаскага дома святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах. Апошнім часам апрача падрыхтоўкі да святкавання ігумення Кацярына наглядала за будовай мураванай манастырскай царквы. Рэзультат будаўнічых работ убачылі паломнікі ў час святкавання.

— З дапамогай нам прыходзяць Божая Маці і нашы святыя мучанікі тут загінуўшыя, а трагічныя падзеі 1946 года няхай будуць перасцярогай для нас і чарговых пакаленняў, каб такое больш не здарылася. Трэба маліцца, каб падобнага больш не было і прасіць у Бога прабачэння правінаў забойцам, — сказала ігумення Кацярына.

Настаяцель праваслаўнага прыхода ў Малешах протаіерэй Марк Якімюк, які прыбыў на праслаўленне святых мучанікаў у Залешаны, запрашаў на паломніцтва па месцах забойства вазакоў і мірных жыхароў у вёсках яго прыхода.

— Заўтра плануем маліцца да святых мучанікаў у час літургіі ў Бранську і на месцах спачыну святых мучанікаў у Занях і Шпаках, а таксама каля Пухалаў-Старых, дзе былі забіты мучанікі з нашых вёсак. З году ў год большае колькасць паломнікаў, якія прыязджаюць у наш прыход маліцца на месцы забойства і спачыну нашых мучанікаў. Плануем маліцца ў гэтых месцах таксама ў наступных гадах, а святкаванне ў гонар нашых мучанікаў забітых у Занях і Шпаках прадбачана таксама на 2 лютага, — удакладніў айцец Марк Якімюк.

— Я рады што мой прадзед Павел Шпакоўскі са Шпакоў далучаны да ліку святых мучанікаў. Ён перад смерцю распазнаў свайго забойцу і паспеў сказаць прабабулі, хто гэта быў. Хлопцы з вёскі хацелі пайсці і адпомсціць за забойства, але прабабуля прасіла аставіць справядлівасць Богу, — сказаў малады мужчына.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

## У нас па ўік-эндах не ездзіць аўтобус ПКС

У снежні 2017 года з Гайнаўкі ў Беласток, між іншым, цераз Нараўку, Новае Ляўкова і Бандары пачаў ездзіць аўтобус транспартнай фірмы ПКС. Не было яго два гады. Пусцілі на згаданы маршрут тады, калі здалі ў карыстанне прыгожы новы будынак вакзала ПКС у Беластоку. Тады і памянялі расклад руху і маршруты некаторых пасажырскіх аўтобусаў. Аўтобусам ПКС можна зранку паехаць у ваяводскі горад і пад вечар вярнуцца дадому. Гэта добра. А было б яшчэ лепш, калі б ён ездзіў і ў выхадныя дні. Жыхары Нараўчанскай і Міхалоўскай гмін часцей наведвалі б сваіх дзяцей, якія жывуць і працуюць або вучацца ў Міхалове ці Беластоку. Унукі і іх бацькі па ўік-эндах прыязджалі б на вёску і пад вечар у нядзелю вярталіся б у гарады. А так сямейныя сувязі рвуцца. Не ўсе маюць свае аўтамабілі. Такіх большасць.

Нашы айчынныя палітыкі гавораць, што маршрутаў аўтобусаў ПКС будзе больш і нават адкрыюць новыя маршруты ў далёкія ад гарадоў вёскі. Казалі, што пусцяць пасажырскія паязды туды, дзе яны раней ездзілі. Але толькі так гавораць, а на самой справе гэтага няма і няма. Як кажуць, чакай ля мора пагоды.

Адбыліся прэзідэнцкія выбары. У ходзе выбарчай кампаніі былі розныя абяцанкі. Але зараз людзі ўсё менш у іх вераць. Некаторыя маюць за сабой не адны выбары. Яны ідуць з праблемай да таго, хто бліжэй іх жыве, між іншым, да раднага. А яму ў адказ на іх інтэрпеляцыі адпісваюць, што няма грошай на дадатковыя маршруты аўтобусаў ПКС. Няма іх і на рамонт ваяводскай ухабістай дарогі № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Бандары, Новае Ляўкова, Плянту і Нараўку. **(яц)**

## З „Нівай" у два Масева

28 ліпеня гэтага года я і мой матарызаваны сябра паехалі ў Новае Масева (тут солтысам Яраслаў Ламашкевіч) і Старое Масева (солтыс Давід Вярбіцкі) у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Гэтыя вёскі ў Белавежскай пушчы і каля нашай польскай усходняй граніцы з Беларуссю. Завезлі мы сёлетнія ліпеньскія нумары беларускага штотыднёвіка, між іншым, 30 нумар ды экземпляры „Нівы" з беларускім календаром на 2020 год. Аказалася, што „Нівы" № 51 ад 22 снежня 2019 года (ён быў з укладышам-календаром) яны не мелі.

У мяне ёсць яшчэ некалькі экземпляраў беларускага часопіса з календаром на гэты год і я іх дам у падарунку тым жыхарам, якія не маюць. У ліпені сын мае сястры ўзяў „Ніву" з календаром на 2020 год у Фінляндыю, дзе знайшоў сабе добра платную працу. Ён зноў прыедзе ў родную вёску на Раждаство Хрыстова.

29 ліпеня г.г. паехаў я ў Гайнаўку. Тут „Ніву" можна купіць толькі на галоўнай пошце па вуліцы А. Зіна. Зараз у горадзе не працуе ні адзін газетны кіёск. Два было ў шпіталі, які знаходзіцца пад лесам у канцы горада, але іх закрылі ў сувязі з вірусным пандэміяй. На пошце купіў я чатыры экземпляры 30 нумара беларускага часопіса (тут столькі іх асталося на продаж).

Калі каля поўдня я вярнуўся ў Новае Ляўкова, у мяне ўзялі адзін экземпляр у Асяродак экалагічнай адукацыі ў Семяноўцы ды двое жыхароў новаляўкоўскай калёніі пры лесе Плянта. Пад вечар таго ж дня апошні экземпляр 30 нумара „Нівы" я завёз Віталю Сухадолу — солтысу трох вёсачак Падляўкова, Бярнацкага Моста і Сушчага Барка.

30 ліпеня г.г. лістаноша прывёз мне з пошты ў Нараўцы шэсць экземпляраў 31 нумара „Нівы" ад 2 жніўня г.г. і я паехаў да чытачоў нашага роднага часопіса перш-наперш у Новым Ляўкове. Узяў з сабою ўсе шэсць экземпляраў. **(яц)**

3 ☞ працяг

## Вера МІХНОЎСКАЯ

шкадую, што іх не запісала і поўнасцю не памятаю.

**Бацюшка Андрэй Неліпінскі**, шматгадовы настаўнік рэлігіі ў «тройцы», зараз настаяцель прыхода ў Плёсках. — Выхаванне ў духу праваслаўя яна атрымала ў роднай хаце. Яе бацькі Навум і Наталля, жыхары вёскі Рудуты, мелі тры дачкі і яны атрымалі на хрысце такія імёны: Вера, Надзея, Любоў. Гэта так многа гаворыць пра іх як хрысціян. Мы пазнаёміліся ў 1988 годзе, калі я стаў настаўнікам Божага закону ў «тройцы». Памятаю той момант сустрэчы — пані дырэктар якраз складала план урокаў і мы пачалі размаўляць як адрадзіць духоўнае жыццё ў школе. Я ўжо раней наведаў са сваёй матушкай Жыровічы і Пачаеў і хацеў гэтыя святыя месцы прыўхіліць нашым дзеткам. Паломніцтва мы арганізавалі ў 1994 годзе. Пані дырэктар не толькі дапамагала наладзіць паездку, але сама сабралася з намі ў пілігрымку. Спачатку мы пабывалі ў Хмелеве ў айца Серафіма, атрымалі яго бласлаўленне. Адтуль паехалі ў Жыровічы і там памаліліся да Жыровіцкай іконы Божай Маці. Наша паломніцтва вяло шляхам беларускіх святых, таму з Жыровіч мы падаліся на поўнач, да Еўфрасінні Полацкай. Нам дазволілі памаліцца і прыкласціся да мошчаў у старажытнай царкоўцы, якую ўзвяла сама Еўфрасіння. Нас, беларусаў з Польшчы, там вельмі цёпла прымалі, дзякавалі нам за падтрымку. Тое паломніцтва закранула яшчэ Літву — з Полацка мы яшчэ паехалі ў Вільню да Трох Беларускіх Святых. Пані дырэктар не толькі была апякункай моладзі, яна сама малілася, прыкладалася да мошчаў, спавядалася і прычашчалася. Яе рэлігійнасць была звычайнай і адначасова глыбокай, шчырай. Такі вобраз рэлігійнасці яна пераняла ад сваіх бацькоў і перадала яго сваім дзецям, вучням, сябрам, нам.

Словы прызнання і ўдзячнасці выказала **Альжбета Навацкая**, настаўніца біялогіі.

— У другім або трэцім годзе маёй працы (я ўжо настаўнічаю 25 гадоў) адзін вучань не пагадзіўся на ацэнку, якую я рашыла паставіць на канец семестра. Я не хацела даць згоды, каб ён яе папраравіў. На перапынку падышла да мяне пані дырэктар і заступілася за вучнем. Яна перакнала мяне, каб даць яму яшчэ адзін шанс, бо ў яго была цяжкая сітуацыя ў хаце. Я падрыхтавала праправачны матэрыял і назначыла тэрмін. І на здзіў гэты вучань адказаў на выдатна. З той пары я трымаюся прынцыпу: лепш даць яшчэ адзін шанс, чым шкадаваць, што гэтага не зрабіла. Гэтаму навучыла мяне любімая пані Вера. Я запамятаю яе як асобу з добразычлівай усмешкай, уражлівую на людскую крыўду. Яна дапамагала нам, настаўнікам, вучням і іх бацькам. Памятаю таксама сустрэчу на горадзе, калі спадарыня дырэктар Міхноўская выйшла ўжо на пенсію. Яна радасна абняла мяне і прашаптала: *вучы як найдаўжэй, не спяшайся на пенсію*. Яна вельмі любіла сваю працу і, відаць, сумавала па нашай «тройцы».

Словы Альжбеты Навацкай пацвярджае **Пётр Нікалаюк-Стасюк**, цяперашні дырэктар ПШ № 3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча:

— Я вучыўся ў той час, калі пані Вера Міхноўская была віцэ-дырэктарам і запамятаў яе як цёплую і добрую асобу. Калі былі нейкія праблемы, яна заўсёды старалася дапамагчы. Вучні яе любілі, бо яна заўсёды стаяла на іх баку. Нават калі трэба было схадзіць да яе ў кабінет, гэта не было так страшна, бо яна заўсёды слухала вучняў, ставіла пытанні, раіла, што зрабіць, каб пазітыўна вырашыць праблему. Сёння я хачу аддаць ёй паклон, — кажа Пётр Нікалаюк-Стасюк, — за тое, што разам з дырэктарам Васілём Ляшчынскім спрычыніліся да росквіту і добрай славы нашай школы. Таксама за тое, што яны пазітыўна ставіліся да беларускасці, якая ўсіх нас падмацавала ў грамадскім і людскім сэнсе.

— Вера Міхноўская была 25 гадоў дырэктарам, — дадае **Васіль Ляшчынскі,** — таму мела вялікі ўплыў на воблік і характар нашай школы. Былі гады, калі «тройка» ў навучанні займала першае месца ў ваяводстве. Каб дабіцца вынікаў, трэба працаваць, працаваць, працаваць. Тады з часам можа і нешта атрымаецца. Так мы працавалі і падымалі ўзровень навучання. Жаль што адыходзяць з жыцця такія людзі як Вера. Сёння іншая сітуацыя — маладое пакаленне не карыстаецца досведам. Яны не шукаюць, як у старажытнай Грэцыі, парады ў старэйшых, ім здаецца, што яны ўсё ведаюць. А досвед — гэта не толькі веды, але і практыка, разуменне, свой светапогляд. Варта ўсё ж памятаць, што поспех — гэта добрая атмасфера!

— Я кожны дзень малюся за супакой душы пакойнай Веры — кажа айцец **Андрэй Неліпінскі**. — Я веру, што яна ўжо трапіла ў Нябесны Іерусалім і там сустрэлася з Еўфрасінняй Полацкай і ўсімі Святымі Беларускай Зямлі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Зязюля** — птушка, якая схітрыла перад зямлёй і прыродай, але яна зрабіла гэта невыпадкова. З зязюляй нашы продкі параўноўвалі жанчын, якіх пакрыўдзіў лёс ці дрэнныя людзі. У зязюлю магла ператварыцца таксама пакрыўджаная дзецьмі маці, калі ёй хворай не падалі вады, або выгналі з хаты. У вобразе птушкі бачылі таксама дзяўчыну, якая не па волі бацькоў выйшла замуж і за гэта яе пракляла маці. Магла гэта быць і сястра, якая не дапамагла брату ў бядзе. Ці нават удава, якой муж загінуў на вайне.

А яшчэ «зязюляй» называлі жанчын, якія не хацелі нараджаць і глядзець сваіх дзетак. Вось, колькі параўнанняў, персаніфікацый і асацыяцый!

Чаму так здзіўляла гэтая птушка? — падумаеце. — Чаму яна — гераіня многіх народных песень пра няшчасны лёс дзяўчыны?

Як вядома, зязюля не пляце гнязда, а толькі падкідае свае яйкі ў чужыя гнёзды. Яе дзетак выхоўваюць ашуканыя ёю птушкі, якія дзень і ноч шчыруюць і клапоцяцца за яду птушанятам, якія іх перарастаюць нярэдка ў тры разы. Тым часам яна сама лётае па лясах, гучна кукуе і ў прыгожым палёце нагадвае ястраба.

Людзі, аднак, яе любяць і апраўдваюць. Вось «немацярынскія» паводзіны гэтай птушкі тлумачаць легенды. Напрыклад, яе паслалі птушкі шукаць цара Крука, каб яна паклікала яго на важную нараду. Гэтая цяжкая задача займала птушцы шмат тыдняў. За гэта паабяцалі гадаваць яе дзяцей і таму не выкідалі іх са сваіх гнёздаў.

Па кукаванні зязюлі нашы продкі варажылі і прадказвалі ўраджай. Вось, калі птушка закукавала першы раз у лесе прыкрытым маладым лісцем, чакалі добры год. Па колькасці кукаванняў беларусы лічылі гады, колькі каму наканавана жыць.

На Падляшшы была такая прымаўка, якую вымаўлялі падлеткі і дзяўчаты і такім чынам яны гадалі пра сваё замужжа: *Зазуля пэрэпэруля — куолькі мніэ ліэт до вэсільля?*

Калі яна кукавала 2–3 разы, усе цешыліся, бо раней да дваццаці гадоў усе хацелі ўжо выйсці замуж. А калі зязюля кукавала доўга-доўга, дзяўчаты вярцеліся вакол свае восі, смяяліся і абарочвалі сваю варажбу ў жарт.

Цікава, што ў вобразе зязюлі старажытныя беларусы ўяўлялі і душы памерлых. Верылі, што птушка можа перадаць інфармацыю і просьбы продкам на той свет.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# Здымак з Заменгофам!

Нашы сябры, якія прыязджаюць у рэдакцыю «Нівы», заўсёды цікавяцца муралам, што замыкае вуліцу Заменгофа. Карціна, размаляваная на блёку, прадстаўляе дарослага ўжо Людвіка Заменгофа і яго калегу доктара Якуба Шапіро. Яны — сусветныя летуценнікі, таму над іх галовамі лунаюць каляровыя шарыкі. Людвік Заменгоф з дзіцячых гадоў марыў, каб стварыць адну мову, на якой будзе размаўляць увесь свет. І гэта яму ўдалося. Ён — стваральнік першай універсальнай мовы *эсперанта*. Ён сам прызнаўся, што ідэю нашаптала яму атмасфера роднага Беластока. У часы яго дзяцінства ў горадзе размаўлялі на многіх мовах: па-беларуску, па-руску, па-польску, па-нямецку, на мове ідыш ды іншых. Моўны каларыт не перашкаджаў жыхарам кантактаваць між сабою, наадварот ён служыў развіццю і ўзбагачэнню горада.




Сам Заменгоф быў захоплены рускай мовай і культурай. Быў нават у яго жыцці перыяд, калі славуты мовавед, жывучы ў недалёкай Гародні, надумаўся перайсці ў праваслаўе. Праўда, як гэта бывае ў летуценнікаў, ён хутка раздумаўся. У той час беларуская мова яшчэ не існавала ў афіцыйным жыцці, вядома аднак, што, будучы дзіцём, ён любіў пабываць на Сенным рынку, куды прыязджалі людзі з навакольных вёсак. Іх мова напамінала яму прыгожую песню. Таму гэты прабел, у сімвалічным сэнсе, неяк запаўняе наша рэдакцыя (!).

Год таму вуліца Заменгофа папоўнілася яшчэ адной памяткай. У пачатку вулачкі, ад вуліцы Ліпавай стаіць помнік хлопчыка з кніжкай. Навокал яго «танчаць» літаркі розных алфавітаў. Хлопчык — той жа Заменгоф, будучы стваральнік мовы эсперанта, з-за якой ведаюць Беласток у свеце. Людзі соваюць яму ў рукі сцяжкі або кладуць кветкі. Многія любяць з ім фатаграфавацца. Асабліва дзеці — як мой дваюрадны ўнучак Юлік Краўчонак з Зялёнай-Гуры, што на гэтым здымку.

**Фота і тэкст: Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 32-2020

Сем тысяч майстроў
зрабілі хатку
без вуглоў.
М.......
(з народнага)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 15 жніўня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 28: капуста. Узнагароды, кашулькі з лагатыпам «Сустрэч Зоркі», выйгралі Уля Карасюк і Дыяна Іванюк. Віншуем!**

# Агурковая салатка ў агурэчнікавай смятане



Чарговая прапанова паводле культавых рэцэптаў Руды Басера, аўтара кулінарнага даведніка для гурманаў і агароднікаў «Зёлкавае шчасце». Тым больш што зараз сезон на агуркі, якія сёлета ўрадзілі аж надта багата. Для стравы неабходны квітнеючы агурэчнік (*Borgo officinalis*). Гэту расліну раней вельмі ахвотна садзілі на падляшскіх агародах, таму што яна дасканалы дадатак да белага халадцу, які з любасцю спажывалі з таўканічкай. Такі састаў быў надта папулярны ў спякотны час жары і жніва. Праўда, мала хто думаў пра вітальныя і лекавыя якасці агурэчніку, хутчэй цанілі яго за пах падобны да свежых агуркоў. Зараз у свеце зноў вярнулася мода на агурэчнік. Ужо ад старажытных часоў вядома, што ён наклікае радасць і добры гумар. Таксама мацуе сэрца і дзейнічае як гаючы пластыр на раны.

Сёння прапануем даволі простую салатку, якая пры дакладным выкананні не толькі насыціць і захопіць выглядам, але і падбадзёрыць ды схіліць да весялосці і жартаў.

**Складнікі:**

*1 вялікі агурок*
*1 жменя лісця свежага агурэчніку*
*125 г кіслай смятаны*
*3 лыжкі смятанкі*
*3 лыжкі віннага воцату*
*соль, чорны перац, кветкі агурэчніку для дэкарацыі стравы*

Да пакроенага ў скрылікі агурка дабаўце пасечаныя ў дробныя палоскі агурэчнік, з апошніх складнікаў (апрача кветак) падрыхтуйце сметанковы соўс. Змяшайце яго з агуркамі і агурэчнікам і адстаўце на 10 хвілін. Пасля змяшайце, перакладзіце ў салатніцу і зрабіце на верх дэкор з кветак. Частку кветак памачыце ў воцаце, тады яны набяруць ружовы колер. Змяшайце іх з натуральнымі — фіялетавымі або белымі кветкамі, і пакладзіце на салатку. Страву найлепш падаць у белай пасудзіне і на белым абрусе, тады яна прамовіць як густоўны дэкор цэлага стала.

А пасля ешце і весяліцеся!

**(гак)**



# Польска-беларуская крыжаванка № 32-20

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Ulewa | | Banan / Chce | | |
| | Blog | | Koła | | | | Niezdara | |
| | Baran | Kino | | | | | On | |
| | Ławeczka / Kły | | | | | | | |
| | | Lena / Lot | | | | | Usta | |
| Klon | | | | | | Re / Ty | | |
| Łoś | | | | | Prąd / Żyto | | | |
| | | | | Syty | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28-20:**

Гук, Ян, ліпень, Лі, ранак, індык, ох, тост, салавейка, мальва, дно, полька, Лі, юка, падлік, фота, пік, іл. Гарох, ах, Наталька, колька, сава, Літва, лак, дойлід, Лі, клад, вянок.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дыяна Іванюк** і **Мілена Федарук.** Віншуем!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Нельга заліць памяць

Восем піктаграмаў-карт будуць размешчаны на пляжы ў Бандарах, узнаўляючы памяць пра ўжо не існуючыя вёскі, затопленыя водамі вадасховішча Семяноўка.







— Гэта будзе міжпакаленны пераказ і памяць гісторыі, як носьбіт традыцыйных каштоўнасцей народнай культуры Падляшскага ваяводства, — падкрэсліваюць аўтары праекта — Гурток вясковых гаспадынь і гаспадароў (KGW) салэцтва Бандары. — Варта гаварыць пра мясцовую гісторыю, пісаць і ствараць праекты, каб не толькі ўзгадваць старыя падзеі і абараняць спадчыну пэўнай прасторы, але перш за ўсё наблізіцца да гісторыі людзей. Мінулае малой радзімы становіцца ўсё больш абароненым і папулярызаваным ужо актываванымі клубамі вясковых гаспадынь. Наш гуртток гаспадынь і гаспадароў (маем у ім дзесяцёх мужчын) атрымаў дафінансаванне ад Нацыянальнага цэнтра культуры на рэалізацыю праекта «**Рудня — Спадчына затопленых вёсак**», дзякуючы якому ў Бандарах і на берагавой лініі вадасховішча Семяноўка ў межах муніцыпалітэтаў **Міхалова і Нараўка** адбудзецца шэраг мерапрыемстваў, якія актывізуюць мясцовую супольнасць, у тым ліку выстава піктаграмаў, якія ствараюць карты вёсак, якіх ужо няма, затопленых водамі вадасховішча.

— Мы хацелі б паказаць, што гісторыя нашага раёна складаецца з самых розных і размываючыхся прастор, якія з цягам часу губляюць сваю ідэнтычнасць, — падкрэслівае **Марыля Твароўская**, доктар музычных навук, каардынатарка гэтай задачы. — Адсюль і ідэя праекта, галоўным элементам якога будзе выстава піктаграмаў-карт пяці вёсак і трох хутароў, якія ўжо не існуюць. Пазітыўная рэакцыя, якую мы атрымалі не толькі ад Нацыянальнага цэнтра культуры, які выдзяляе гранты на праект, але і ад мясцовай супольнасці, якая ўдзельнічала ў яго рэалізацыі, даказвае, што малая гісторыя гэтага месца заслугоўвае нашай увагі.

Карты сімвалічна паказваюць размяшчэнне дамоў і іншыя асаблівасці, характэрныя для асобных вёсак. На табліцах таксама змешчаны вершы пра родную старонку народных паэтаў з гэтай ваколіцы — між іншым **Фёдара Хлябіча, Марыі Хлябіч, Яўгеніі Буры** — па-беларуску і ў перакладзе на польскую мову.

Салэцтва Бандары звязалася з былымі жыхарамі і іх сем'ямі з Рудні, Гарбароў, Боўтрыкаў, Буд, Старой Лукі і пераселеных з хутароў Бахуроў, Тарнопаля і Семяноўкі, каб прысылалі адтуль, дзе цяпер жывуць. Арганізатары пашукалі інфармацыі і ўспамінаў, для якіх яны знайшлі адпаведнае месца і форму, падкрэсліваючы, што мэтай атрымання інфармацыі з'яўляецца захаванне памяці людзей і месцаў, якія ўжо не існуюць. Усім зацікаўленым асобам прапанавалі звязацца з арганізатарамі па адрасе электроннай пошты: bondary.kgw@gmail.com. Праект быў прафінансаваны Нацыянальным цэнтрам культуры ў рамках праграмы EtnoPolska 2020.

**Аляксандр Кардаш:** — Я сорак гадоў збіраю спадчыну ад затопленых вёсак. Каб гэта ўсё не прапала. Семяноўскае «возера» ўзнікла ў 1977-1990 гадах. Спынілі ваду рэчкі Нарвы ў рукаве ў раёне Лукі і Рыбакоў. Паверхня вады пры мінімальным узроўні на парозе 142,30 метраў над узроўнем мора — 11,7 квадратных кіламетра (максімальна 32,4 кв. км), умяшчальнасць вадасховішча — 17,5 млн. кубаметраў вады (цалкавітая — 79,5 млн кубаметраў), сярэдняя глыбіня — 1,5 м. Пяць бакавых дамбаў даўжынёй 8 250 метраў... Гэта лічбы, а які лік людзей, якім гэтае дзяржаўнае мепарыемства разваліла лёсы, рассеяла па свеце, адарвала ад кораня... Я з гэтым вадасховішчам звязаны з самога пачатку. А з гэтай зямлёй — ад свайго нараджэння. Мая бабуля — з вёскі Боўтрыкі. А дзед Ігнат з Гарбароў. Людзей з бабулінай вёскі вывезлі, а хаты залілі вадой. А я жыву ў Бандарах, працую пры эксплуатацыі вадасховішча. Людзі дагэтуль маюць да мяне крыўду, бо ж я «макаў» свае пальцы ў гэтай бядзе, што мы адсюль іх выгналі. А я толькі працаваў, выконваў свае абавязкі, — тлумачыцца Аляксандр. — Разумею іх боль. Мусілі яны пакінуць свае парогі, кожную вырашчаную раслінку, падворкі, якія пакідалі ўжо не раз іхнія продкі. Там дружылі, гадаваліся, гулялі. Выбраліся на новыя месцы. Шмат хто з іх ужо памёр, не прыжыўшыся на новым корані. А я хачу гэта ўсё захаваць, каб памяць не канула ў ваду гэтага штучнага вадаёма. Збіраў я па крышынцы ўспаміны і вобразы ад хаты да хаты. Матэрыялы сканіраваў, арыгіналы вяртаў у хатнія архівы... Хачу апісаць жыццё кожнай вёскі, лёс усіх разам. Хачу сабраць весткі не толькі з апошняга перыяду жыцця гэтых вёсак. Быў такі час, калі гэтым земляробам нельга было будаваць дамоў, ставіць платоў. На свавім! Жылі ў няўпэўненасці. А калі супакоілася, прыйшлося ім глядзець на тое, як чужыя робяць тут парадкі. Людзі прывыклі, што заўсёды была нейкая змена. Што прыходзілі і перамервалі іхняе, казалі сыходзіць з гаспадаркі. Або і палілі... Людзі прывыклі. **Хлёбнулі гора не раз.** Нашы людзі вярнуліся дахаты пасля бадзянняў па ўсім свеце ў час бежанства, пасля адбудаваліся. Мая бабуля з Боўтрыкаў была ў Краснаярскай губерні... Наўкол усё гарэла, а яны вярнуліся, хто даў рады... Як мусілі дастасоўвацца да ўсё новых сітуацый, каб выжыць. Хачу паказаць таксама іх характар, апрача здымкаў хат, млыноў, школ, у час працы і забавы, у час сходаў, працы і страйкаў (у нас быў страйк арэляў), і ва ўсялякіх арміях. Праваслаўных, каталікаў, здавайны — яшчэ і яўрэяў. Можна запісаць успаміны яшчэ жывых людзей. Успаміны часта ўжо паніхідныя, балючыя, і для іх, і для мяне. Трэба сабраць у быль, легенду і анекдоту. Не можа яна заліць памяці! Гісторыя вёсак, схаваных пад вадой вадасховішча Семяноўка, вельмі багатая і трагічная. На працягу многіх стагоддзяў раёны верхняй Нарвы цяперашняга памежжа даволі часта мянялі палітычную прыналежнасць. Тут крыжаваліся розныя этнічныя элементы насельніцтва, якое каланізавала велізарныя лясы, перасякалася і змешвалася. Палякі, беларусы, літоўцы, украінцы і габрэі пасяліліся па абодвух берагах Нарвы. Тут адбываліся разнастайныя памежныя і этнічныя канфлікты. На працягу многіх пакаленняў культура, рытуалы і звычаі перапляталіся. Ліхія багністыя землі, складаныя ўмовы, галеча і войны навучылі мясцовае насельніцтва ўзаемнай дабрыні і дапамогі ў складаных сітуацыях. Яны выкарыстоўвалі сваю мясцовую мову, сфарміраваную на працягу некалькіх пакаленняў. Ну, гаварылі па-нашаму. Па-беларуску.



— Ну, раз ты заліваў, дык гэта і ратуеш, — з несалодкай усмешкай каментуюць словы Аляксандра жанчыны і слухаюць яго «даклад».

— Дамы былі пабудаваны з дрэва, высечанага мясцовымі цеслярамі. Кроквенныя дахі, пакрытыя саломай. Дамы ў вёсках размяшчаліся ўздоўж т.зв. вуліцоўкі. Да Першай сусветнай вайны там былі невялікія сціплыя хаткі, часам з хлеўчуком. Увесь дом быў ацеплены вялікай печкай. Яе выкарыстоўвалі для падрыхтоўкі ежы, ацяплення дома і ложка для сну для пажылых хворых людзей і дзяцей — гэта быў так званы „запечак". Пасля Другой сусветнай вайны ндаўна пабудаваныя дамы з ганкамі пачалі ўпрыгожваць разьбой па дрэве. Мясцовыя жыхары даведаліся пра гэты спосаб упрыгожвання сваіх дамоў у глыбокай Расіі, куды яны ўцякалі ад нямецкай арміі падчас Першай сусветнай вайны, ідучы ў бежанства.

Мясцовае насельніцтва, акрамя земляробства і жывёлагадоўлі, займалася рознымі рамёствамі. У кожнай вёсцы былі кузні. Былі вадзяны млын у Рудні і ветраны млын у Гарбарах. Жанчыны ткалі тканіны для патрэб дома: абрусы, прасціны, тканіны для адзення, посцілкі, дываны, занавескі, радзюжкі. Насельніцтва займалася гарбарным, кравецкім рамёствам, вырабам валёнак і абутку. Ганчарства развівалася ў Луцэ. Жыхары будавалі дамы, печы, самі выраблялі драўляныя вырабы і мэблю. Узімку мужчыны працавалі на высечцы і вывазе дрэў у біндугу. Вясной яны збівалі бярвенне ў плыты. Яны былі аб'яднаны ў пасы. Іх сплаўлялі мясцовыя плытагоны — арэлі — да Страблі і Тыкоціна... Сем'і былі шматлікімі і шматпакаленнымі. Адукацыя была вельмі добра развіта ў гэтай галіне. Чатырохкласныя школы былі ў Бахурах, Будах, Боўтрыках і Тарнопалі. Сямікласныя школы функцыянавалі ў Семяноўцы, Луцэ, Шымках, Цісоўцы

чытайце ☞ 11

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Шпацыр па вуліцы Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў

Гмінны Цэнтр Культуры — Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку запрасіў на Свята вуліцы Хадкевічаў на 12 ліпеня. У рамках свята, пры строгім захаванні асцярог каранціну, былі праведзены праекты: паказ старых здымкаў на тэлебіме, выстава старых здымкаў на плоце паўз вуліцу Хадкевічаў, сямейны вулічны прабег, конкурс на самае прыгожае ўбранне брамы і віртуальны шпацыр па вуліцы Хадкевічаў. Шпацыр таксама можна яшчэ цяпер выканаць шляхам фейсбука.

— Цяжка ўявіць Варшаву без калоны Жыгімонта III Вазы, Беласток без сям'і Браніцкіх і Гарадка без вуліцы Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў, — кажа гісторык і краязнаўца з Гарадка **Вера Тарасэвіч**. — Пра гэта пісаў у той час радны Лявон Тарасэвіч, сёння вядомы ва ўсім свеце жывапісец, у абгрунтаванні дазволу змяніць назву галоўнай вуліцы ў Гарадку.

Цяперашняя назва вуліцы была прынята на падставе пастановы Рады гміны ў Гарадку ад 28 кастрычніка 1993 года. Да Другой сусветнай вайны вуліца, збольшага да моста, была працягам вуліцы Беластоцкай, ад моста яна называлася вуліцай Пілсудскага. У 1950-я гады на працяг многіх гадоў ёй прысвоілі імя генерала Караля Свярчэўскага. Калі дэкамунізацыя ўступіла ў Гарадок, Рада гміны далучылася да аргументаў, выкладзеных у абгрунтаванні Тарасэвіча, і назвала галоўную вуліцу імем Хадкевічаў.



Распавядае Вера Тарасэвіч

**Лявон Тарасэвіч** пісаў, чым Гарадок абавязаны Аляксандру і Рыгору Хадкевічам. Сярод іншых аргументаў, якія ён прадставіў, было: менавіта Аляксандр Хадкевіч у 1484 годзе атрымаў у спадчыну Блудаўскую пушчу разам з месцам, дзе размяшчаўся Гарадок. Шляхам наданняў і пакупак, як вялікі магнат, слухаючы каралю як надворны канюшы і гаспадаркі маршалак, ён набываў землі ў басейне Свіслачы і Верхняй Супраслі, а Гарадок стаў цэнтрам маёнткаў Хадкевічаў. Ён пабудаваў драўляную крэпасць «Замак Супрасльскі», да якой можна было дабрацца толькі па пад'ёмным мосце з сённяшняй вуліцы Балотнай. Менавіта з гэтага месца Аляксандр апублікаваў дакументы, падпісаныя «Пісан у Городку», «у Городку на Супрасле», што сведчыць аб вялікім значэнні Гарадка ў магнацкіх маёнтках.

Знакамітасць Гарадка, створанага Аляксандрам Хадкевічам, працягнуў яго сын Рыгор Хадкевіч — кашталян, ваявода і, нарэшце, вялікі літоўскі гетман. Дзякуючы яго намаганням да Гарадка былі дададзены правабярэжныя землі Супраслі. Падчас яго панавання замак у Гарадку, які належаў яму, набывае значэнне, а сам Гарадок набывае новапацверджаныя гарадскія правы.

*Таму, беручы пад увагу той факт, што вуліцы ў Гарадку павінны ўшаноўваць заснавальнікаў і стваральнікаў залатога веку Гарадка сваім імем, і каб нам не надавалі ніякіх альтэрнатыўных імён у будучыні,* — аргументаваў Лявон Тарасэвіч амаль трыццаць гадоў таму.

— Гісторыя вуліцы Аляксандра і Рыгора Хадкевічаў вельмі багатая, — адзначала Вера Тарасэвіч. — Мы пачынаем шпацыр з таго месца, куды ў XVI стагоддзі вяла дарога да замка Хадкевічаў. На рагу вуліц Балотнай і Хадкевічаў, пад нумарам 1, стаіць непрыкметны, паўразбураны драўляны дом Юзафа Абраміцкага, фатографа, цырульніка і грамадскага дзеяча яўрэйскага паходжання, які жыў там да Галакосту. Ад яго захаплення засталіся мемарыяльныя фотаздымкі даваенных дзеячаў і фрагментаў Гарадка тых гадоў. Дом Абраміцкіх знаходзіцца на вельмі гістарычным месцы. Сумежная, захаваная планіроўка вуліц Беластоцкай, Міхалоўскай і Хадкевічаў стала асновай для прызнання месца іх стыку ўрбаністычным помнікам. У 1957 годзе яны былі занесены ў ваяводскі рэестр помнікаў.

На другім баку развілкі ёсць дзве ўстановы, якія, безумоўна, важныя для жыхароў Гарадка — Гмінная ўправа і Гмінны цэнтр культуры (ГЦК). Камунальны офіс — сядзіба мясцовага самакіравання Гарадоцкай гміны, якая заўсёды была быццам бы тут «ад заўсёды», была створана ў канцы 1960-х гадоў (1972 год на інвентарнай дошцы). У наш час усё большая колькасць задач паказвае гарадоцкую мару аб большай і больш функцыянальнай пабудове ўправы гміны.

ГЦК, размешчаны ў непасрэднай блізкасці ад Гміннай управы, з'яўляецца надзвычай сучасным аб'ектам. Калі хто не ведае яго гісторыі, павінен даведацца. Жыхары самі будавалі гэты будынак у рамках шматгадовай грамадскай дзейнасці і за грошы, сабраныя з грамадскіх збораў, на Дом культуры імя Кастуся Каліноўсага. Калі ён быў уведзены ў эксплуатацыю 5 чэрвеня 1965 года, людзі вельмі ганарыліся вынікамі сваёй працы. Цэнтр культурнага жыцця стаў узнагародай за іх намаганні, і ён выдатна служыць наступным пакаленням і па гэты дзень.

На другім баку вуліцы — насупраць ГЦК — знаходзіцца гарадоцкі філіял Кааператыўнага банка ў Беластоку. 15 жніўня, таксама ў 1965 годзе, у эксплуатацыю быў уведзены сучасны ўнікальны будынак у ваяводстве. Апошняя рэканструкцыя, праведзеная ў 2020 годзе, і добры фінансавы стан філіяла дазваляюць Банку актыўна дзейнічаць на карысць сваіх кааператыўшчыкаў. Побач з банкам ёсць сціплая памятка Народнай Польшчы — былая кнігарня. Адкрытая ў 1963 годзе, яна шмат гадоў выкарыстоўвалася як запас кніг, школьных прылад і падручнікаў. Перастала дзейнічаць на мяжы XX і XXI стагоддзяў.

Больш дзясятка метраў далей па пешаходным маршруце — рака Супрасль. Гэта правабярэжны прыток Нарвы даўжынёй 106,5 км, крыніцы якой працякаюць на поўнач ад вёскі Тапаляны. Абедзве часткі Гарадка мостам злучаны з левага і правага берага. Найстарэйшы з тых, які памятаецца — драўляны, быў пабудаваны ў 1948 годзе, таму што моцны даваенны мост быў разбураны падчас адступлення нямецкай арміі ў 1944 годзе. Паколькі драўляная канструкцыя была не вельмі трывалай і адчувальнай да пагодных умоў, праз дзесяць гадоў мост быў адрамантаваны, а ў 1969 годзе была пабудавана новая сталёвая канструкцыя. Вуліца на гэтым участку была ўзнята і пашырана.

Прама побач з мостам знаходзіцца Добраахвотніцкая пажарная часць. Першы пасля вайны будынак пажарнай часці быў пабудаваны ў 1957-1964 гадах. Другі, больш, таксама эканамічна пабудаваны, быў уведзены ў эксплуатацыю ў маі 1981 года. У 2018 годзе адбылося святкаванне 90-годдзя Добраахвотніцкай пажарнай часткі ў Гарадку ў спалучэнні з прыняццем новай выратавальнай машыны.

Вуліца А. і Р. Хадкевічаў — адна з трох галоўных вуліц Гарадка. Выпадкова падабраныя даныя пра колькасць людзей на асобных вуліцах паказваюць, што ў 2012 годзе ўвесь Гарадок налічваў 2533 жыхары, а 317 чалавек жылі па вуліцы Хадкевічаў. Толькі па вуліцы Беластоцкай жыве больш — 337 чалавек.

Гэта прыгожая і вельмі важная для Гарадка вуліца ў 2014 годзе мела сур'ёзную рэканструкцыю паверхні. Медыі, якія былі патрэбны жыхарам, былі адрамантаваны значна раней. Вулічнае асвятленне можна было зрабіць адразу пасля вайны. У 1965/1966 гадах у Гарадку быў выкапаны глыбінны калодзеж, што пачало будаўніцтва першай лініі водазабеспячэння. Санітарная каналізацыя пачала дзейнічаць у 1998 годзе, а каналізацыя дажджавой вады была зроблена з агульным рамонтам у 2014 годзе. Немагчыма ўявіць сённяшнюю вуліцу гандлёвым шляхам на ўсход ад XVI стагоддзя і нават пасля вайны, параўноўваючы яе з вузкай, брукаванай вуліцай з драўлянымі альбо бетоннымі слупамі на ўскраінах.

Выдатнай візітнай карткай галоўнай вуліцы Гарадка з'яўляецца месца пад назвай «вясковы рынак». Выкладзены брукаванкай і бардзюрамі, з рынкавай залай і гаспадарчым будынкам, гэта месца, дзе рынак можна правесці па аўторках, але таксама можна арганізаваць мерапрыемствы для жыхароў у іншы час, напрыклад, Новы Год ці сямейны пікнік. Гэтая вялікая плошча таксама мае сваю гістарычную каштоўнасць. У міжваенны час па вуліцы Пілсудскага стаяла тэкстыльная фабрыка габрэя Кроненберга. Разбураная падчас Другой сусветнай вайны, шматпавярховая фабрыка была ўзведзена з цэглы, якая пасля вайны была выкарыстана для пабудовы царквы ў Гарадку. Пасярэдзіне плошчы стаяла яшчэ адна фабрыка габрэя Готліба, але яе таксама знішчылі. У эпоху камунізму плошча сённяшняй гандлёвай пляцоўкі належала рэсурсам гарадоцкага кааператыва ГС «Самапомач хлопска» ў Гарадку. У той час тут былі велізарныя склады для вугалю, угнаенняў і сельскагаспадарчай прадукцыі. Пасля банкруцтва ГС склады былі знесены, а плошча перайшла ва ўласнасць гміны.

Недалёка ад рынкавай пляцоўкі, на вуліцы Хадкевічаў, 33, ёсць вялікі, шырокі дом, які ў цяперашні час паэтапна аднаўляецца. Гэта адзін з найстарэйшых будынкаў у Гарадку. Яго жыццё на працягу дзесяцігоддзяў было звязана са служэннем людзям. Да вайны тут былі

чытайце ☞ 10

